ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга ноша

№ 13
сакавік, 2012

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Алесь ПАШКЕВІЧ: «...І знікне будучыня, калі не будзе гісторыі»




**– Шаноўны Алесь Аляксандравіч, у апошнім нумары часопіса «Дзеяслоў» за мінулы год быў надрукаваны Ваш раман-прыпавесць «Сім побѣдиши», у якім цесна перапляліся гісторыя і сучаснасць. Над якой часткай Вам было цяжэй працаваць: над гістарычнай ці сучаснай?**

– Сучаснай. Цяпершчыну, як ні дзіўна, мы ведам менш, чым мінулае. Ды і сучаснасць – у адрозненне ад гісторыі – не даруе памылак. Як і няшчырасці, недагаворанасці. Зрэшты, што для нас тыя «гісторыя» і «сучаснасць»? Што – для канкрэтнага чалавека-чытача? Не народа, нацыі, дзяржавы, у якіх тое, што мінула, – ці казка-бальзам (найперш у заможных і паспяховых), ці «гады няволі і тугі», а цяперашняе – лагічныя працяг і ўвасабленне былых стагоддзяў у першых, для другіх – працяг «барацьбы»: за ўраджай, за галовы электарату, а таксама – з сухім летам і халоднай зімой, з унутранымі і знешнімі ворагамі. Ну і нельга ж забываць пра «будучыню» тых народаў, нацый і дзяржаў: у адных яна – лагічны працяг сучаснасці, як заўтрашні дзень ці чарговы адпачынак на выспах Французскай Палінезіі, другімі яна таксама марыцца «светлай», хоць і не такой блізкай: у 60-х жыцьмем у камунізме, у 2000-м кожны будзе мець сваю кватэру, праз пяцігодку атрымаем заробак нямецкага пралетарыя…

У звычайных жа – паасобных – людзей усё значна прасцей. Бо ў іх наўрад ці ёсць усе тыя тры паняцці цалкам: гісторыя-мінулае, сучаснае-цяпершчына і будучыня-прышласць. Маю на ўвазе: ёсць у практыцы, у фізічным вымярэнні. Толькі ў адзінак з мільярдаў – радавыя замкі, манаршыя скіпетры, кароны, лясы-землі ды грашавітая спадчына, якія дапамагаюць не адарвацца ад «таго, што было» і дазваляюць ведаць «тое, што будзе». Для ўсіх жа астатніх – хай велікадушна даруюць мне рамантыкі і сентыменталісты – «есть только миг между прошлым и будущим», як спявалася ў адной вядомай песні. Тое імгненне – у каго песня, у каго плач – і робіцца для нас жыццём. У яго я і змяшчаю ўсю нашую вечнасць: мінулае, сучаснае і будучае. У самадастатковай і шчаслівай асобы яны займаюць па траціне, у недаразвітага і няшчаснага пераважаюць ці першае, ці апошняе.

**– І не апошнюю ролю ў тым падзеле адыгрывае мастацкая літаратура: гістарычныя раманы, утопіі, фэнтэзі?**

– Менавіта! Стагоддзямі найперш гістарычная літаратура, у прыватнасці, і беларуская, вымагалася наладзіць тую прапарцыянальную гармонію паміж «былым» і «будучым», пашырала іх прастору – і ў нашым рацыянальным свеце, і ў пачуццёвым. Мне часам наогул ненавукова здаецца, што ў людзей мозг складаецца не з двух паўшар'яў, а з трох – з усё тых жа «ўчора», «сёння» і «заўтра». І невылечна хворыя, нават небяспечныя тыя, у каго меншыя або

(Працяг на стар. 7)

### Даведка «Кніганошы»:

Алесь Пашкевіч – паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Нябесная сірвента», «Пляц волі», «Зваротныя дарогі», «Круг» і інш. Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава на Случчыне. Жыве ў Мінску.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сыс Сяржук. Стрэмка: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 18)**

Паэзія Сержука Сыса, знаёмая аматарам з перыядычнага друку ды інтэрнэту, упершыню сабраная пад адной вокладкай. Запамінальныя вобразы, элементы самабытнай міфалогіі, філасофскія і настальгічныя матывы, іронія і гумар, уласцівыя творам паэта, далучаюць чытача да непаўторнага свету лірычных перажыванняў аўтара.




**Быкаў Васіль. Поўны збор твораў: у 14 т. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – Т. 9: Кінасцэнарыі. – 684 с.**

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924–2003). Дзявяты том склалі кінасцэнарыі 1962–1994 гг.: «Третья ракета», «Альпийская баллада», «Западня» (кінасцэнарый Л. Мартынюка, пры ўдзеле В. Быкава), «Двое в ночи», «Волчья стая», «Долгие вёрсты войны», «Ушедшие в вечность (Обелиск)» (кінасцэнарый В. Быкава, Р. Віктарава), «Его батальон» (кінасцэнарый В. Быкава, пры ўдзеле А. Карпава), «На чорных лядах» (кінасцэнарый В. Панамарова, пры ўдзеле В. Быкава). Укладанне і каментары Сяргея Шапрана. У «Каментарах» да твораў выяўляюцца значныя варыянтныя тэксталагічныя разыходжанні, а таксама пратаколы, пастановы, заключэнні, рэкамендацыі савецкіх цэнзараў, аналізуючы якія можна зразумець, чаму практычна ўсе фільмы «па Быкаву» аказаліся настолькі не падобнымі да быкаўскай прозы.




**Пракаповіч Ігар. Снежны вэлюм шыпшыны: чорныя і белыя вершы: зборнік паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 220 с.**

У новай кнізе вядомага паэта і краязнаўцы Ігара Пракаповіча, у якую ўвайшлі вершы розных гадоў, адлюстраваліся складаныя варункі жыцця чалавечага, у вірах якога спалучаюцца хвалі высокай духоўнасці і прыніжанай пачуццёвасці, самаахвярнага патрыятызму і здрадніцкай абыякавасці, узнёслага кахання і шэрай будзённасці.




**Барскі Алесь. Выбраныя творы. Уклад. А. Клышкі, прадм. М. Тычыны, камент. У. Казберука. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 416 с. [18] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя І. Мастацкая літаратура)**

Алесь Барскі (сапр. Аляксандр Баршчэўскі; нар. 1930), родам з Беластоцкай вобласці БССР, якую ў 1944 годзе «бацька ўсіх народаў» Іосіф Сталін, не папытаўшыся ў яе насельнікаў, перадаў суседняй Польшчы. Застаючыся верным роднаму беларускаму народу, Алесь Барскі прысвяціў Беларусі ўсю сваю творчасць. У кнізе сабраны найбольш значныя творы розных жанраў – паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі, літаратуразнаўства, а таксама фотаілюстрацыі з сямейнага архіва А. Баршчэўскага.

Пяцьдзясят дзявяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Мельнікаў Мікалай. Радавод: хроніка жыцця беларускай сялянскай сям'і; 2-е выд. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 92 с.**

«Радавод» – чарговая кніга Мікалая Мельнікава пра свой род. «Кніга «Радавод» як хроніка жыцця адной беларускай сям'і ў гады раскулачвання, калектывізацыі і вайны па сваёй напоўненасці фактамі, багацці сабраных матэрыялаў і дакументальным раскрыцці лёсаў і падзей таго незайздроснага часу, безумоўна, вартая ўвагі і таго, каб пра гэта даведаліся не толькі сваякі і блізкія з роду Мельнікавых, але і шырокае кола чытачоў», – адзначае Аляксей Дземідовіч у прадмове да кнігі. У дадатку змешчаны «Архіўныя даведкі Упраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці, УУС і Пракуратуры па Архангельскай вобласці».




**Бурлак Вера. Творы сонная жанру: проза. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 100 с.**

Гэта першая кніга прозы Веры Бурлак, дагэтуль больш вядомай як паэткі. У сваіх апавяданнях аўтарка прапануе чытачу паблукаць па лабірынтах сноў і пагуляцца ў гульні па няясных правілах. Цікавостка кнігі – «Проза для чытання ў мінскім метро»: дэтэктыўны раман «Качаняты», філасофскі раман «Платон і Сімулякр», дамскі раман «Ружовы атрамант», прыгодніцкі раман «Цемра» і пяць апавяданняў. Гэтыя міні-раманы і кароценькія апавяданні невялікія па аб'ёме, а таму іх зручна чытаць па дарозе дадому ў метро ці іншым транспарце.




**Лобач Уладзімір. ULASLOVY: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 108 с.**

Уладзімір Лобач – выкладчык Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, вядомы беларускі этнограф, даследчык традыцыйнай культуры Бацькаўшчыны. На працягу амаль 20 гадоў ён вымярае дарогі Паўночнай Беларусі ўласнымі экспедыцыйнымі маршрутамі, плёнам якіх сталі дзясяткі навуковых артыкулаў. Невыпадкова сімволіка дарогі стала асноўным матывам першага паэтычнага зборніка аўтара. Шляхі асабістага жыцця ў вершах У. Лобача нітуюцца з пуцявінамі і ростанямі Айчыны ва ўсей кранальнай непаўторнасці яе вобразаў.




**Лобан Ірына. Мая душа: вершы. – Мінск : Логвінаў, 2011. – 120 с.**

Першая кніга маладой віцебскай паэткі Ірыны Лобан – адной з пераможцаў конкурсу ў гонар юбілею Уладзіміра Караткевіча (2010). «Паэтка жыве ў любоўным палоне» і навакольны свет успрымае і апісвае праз свае адчуванні, прапускае ўбачанае праз душу і сэрца...




**Сіманёнак Людміла. Незабыты шлях: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 60 с.**

У кнізе Людмілы Сіманёнак сабраныя вершы апошніх гадоў. Гэта – адбіткі разнастайных бакоў нашага жыцця. Творчасць паэткі шмат у чым жывіцца праявамі прыроды роднага Прыдзвіння і сваімі вобразна пераасэнсаванымі назіраннямі, «знаходкамі», шчыра дзеліцца з чытачамі.




**Жыбуль Віктар. Стапеліі: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 220 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У параўнанні з іншымі зборнікамі Віктара Жыбуля («Прыкры крык», «Дыяфрагма») гэтая кніга вылучаецца большай філасафічнасцю і змрачнаватай, хоць месцамі і іранічнай, танальнасцю, са зваротам да вострых праблемаў свету рэальнага і свету ірэальнага. Паэт вымалёўвае своеасаблівую галерэю грабляў, на якія можна наступіць у пошуках адказаў на спрадвечныя пытанні. Напэўна, схільнасць аўтара да парадоксаў паўплывала і на выбар назвы зборніка: стапеліі – паўднёваафрыканскія кветкі, «вельмі эстэтычныя» з выгляду, але са спецыфічным малапрыемным пахам, які нагадвае гнілое мяса.




**Бычкоўскі Алесь. Анамалія: проза. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 136 с. – (Калекцыя беларускай фантастыкі; Вып. 2).**

Творчасць фантаста Алеся Бычкоўскага ахоплівае невядомыя сегменты Сусвету, дзе адбываюцца невергодныя прыгоды і адкрыцці і дзе можна па-іншаму ад прывычнага адчуць час і прастору. У кніжцы ёсць караблі-зоркалёты і мужныя касмапраходцы, хітрыя кантрабандысты. Два найлепшыя творы сучаснай беларускай фантастыкі змешчаныя ў гэтай кнізе: фантастычныя навелы «Ён прыйдзе апоўначы» і «Муары Лідлу». А разам з імі – захапляльныя аповесці і твор па-за жанрам – «Хвалі. Бязмежная плынь» – для тых, хто любіць філасофскія вандроўкі.




**Мурзёнак Пётр. Крыніца: вершы. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 144 с.**

Зборнік вершаў Пятра Мурзёнка, доктара медыцынскіх навук, які нарадзіўся ў 1951 годзе на Паўстаўшчыне, у пасёлку Дунілавічы, а з 1998 года жыве і працуе ў Канадзе, мае выразны патрыятычны напрамак, але ў ім хапае месца і цёпла-лірычным вершам, таксама крынічным для паэта. Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі.




**Шміт Эрык-Эманюэль. Евангелле паводле Пілата: раман. Пер. з фр. мовы Андрэя Хадановіча. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 205 с. – (Littera scripta).**

Эрык-Эманюэль Шміт (1960) – адзін з найпапулярнейшых сучасных французскіх пісьменнікаў і драматургаў. Ягоныя раманы, аповесці і зборнікі апавяданняў перакладзеныя на шматлікія мовы, а п’есы з поспехам ідуць у тэатрах усяго свету. У сваёй творчасці ён нярэдка звяртаецца да сусветных рэлігіяў, яскравым прыкладам чаму стаў раман «Евангелле паводле Пілата» (2000). Гісторыя Ешуа, які ідзе ў неймаверны заклад з самім сабой, убачаная вачыма рымскага пракуратара, ператвараецца ў напружанае дэтэктыўнае расследаванне.




**Уэльбэк Мішэль. Магчымасць выспы: раман. Пер. з фр. мовы Змітра Коласа. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 367 с. – (Littera scripta).**

Адзін з найбольш чытаных сучасных французскіх аўтараў Мішэль Уэльбэк (нар. у 1958 г.) спрабуе ва ўласцівай яму шчырай манеры прааналізаваць стан сучаснага грамадства, уздымаючы праблемы кахання і гвалту, маладосці і старасці, смерці і несмяротнасці.




**Старк Ульф. Дыктатар. Пер. з шведскай мовы Насты Лабады і Вольгі Рызмаковай. – Мінск: Логвінаў, 2011. – с.**

Ульф Старк – адзін з найвыбітнейшых шведскіх дзіцячых пісьменнікаў, Лінда Бундэстам – адна з найбольш таленавітых фінскіх маладых мастачак. «Дыктатар» – гэта першая кніга, якую яны стварылі разам, але чытач ужо цяпер можа прасачыць іх супольны гумар, дабрыню і няўрымслівасць.

Хто павінен баяцца дыктатара? Усе.
Хто павінен суцяшаць дыктатара? Усе.
Хто павінен услаўляць дыктатара? Усе.

Але калі дыктатар яшчэ зусім маленькі,
ён можа ў рэшце рэшт застацца ў адзіноце,
бо наўрад ці загадаеш камусьці быць тваім сябрам.

# «Павел КАСЦЮКЕВІЧ – першы лаўрэат прэміі імя Ежы Гедройца»

3 сакавіка ў Палацы мастацтваў абвясцілі пераможцу літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца, заснаванай сёлета. Яе першым лаўрэатам стаў Павал Касцюкевіч. Ён атрымае 105 мільёнаў рублёў і месяц творчага адпачынку на шведскім востраве Готланд за кнігу «Зборная РБ па негалоўных відах спорту».




Спачатку на прэмію прэтэндавалі дванаццаць кніг, у шорт-ліст увайшлі шэсць. Апроч лаўрэата ў фінале апынуліся: Уладзіслаў Ахроменка з кнігай «Тэорыя змовы»; Альгерд Бахарэвіч з кнігай «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча»; Артур Клінаў з кнігай «Шалом: ваенны раман»; Аляксандр Лукашук з кнігай «След матылька. Освальд у Мінску»; Андрэй Федарэнка з кнігай «Мяжа».

Альгерд Бахарэвіч заняў другое месца, за якое даецца магчымасць месячнага творчага побыту ва Уроцлаве і сертыфікат на выданне кнігі-лаўрэата па-польску, трэцяе – Андрэй Федарэнка (месячны побыт ва Уроцлаве).

Літаратурная прэмія Гедройца прысуджалася за найлепшую кнігу, выдадзеную (у папяровым або электронным варыянтах) у 2011 годзе на беларускай мове ў жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка».

У журы прэміі імя Гедройца ўвайшлі: старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, старшыня беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч, пісьменнік Уладзімір Арлоў, філосаф Валянцін Акудовіч, крытыкі Людміла Рублеўская і Маргарыта Аляшкевіч, перакладчык і старшыня Польскага ПЭН-клуба Адам Паморскі, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч. Ганаровы старшыня журы – пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка.

Заснавальнікі прэміі – пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Польскі Інстытут у Мінску, РГА «Беларускі ПЭН-цэнтр», ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і ЗАТ «Сомбелбанк».

**prajdzisvet.org, фота Аляксандра Ждановіча**

# «Дэбютанты-2011» – «ПрайдзіСвет», Брыль і Марціновіч

14 сакавіка ў мінскай галерэі «Ў» былі названыя і ўганараваныя лаўрэаты літаратурнай прэміі «Дэбют».

У намінацыі «Пераклад» найлепшым быў прызнаны калектыў рэдакцыі часопіса перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет», які летась выдаў у перакладзе з ангельскай мовы кнігу Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці». Атрымлівалі прэмію перакладчыкі кнігі Юля Цімафеева, Ганна Янкута, Кацярына Мацiеўская і Алена Пятровіч.



У намінацыі «Проза» перамагла кніга Віктара Марціновіча «Сцюдзёны вырай». Яна выйшла ў электронным варыянце, з нагоды чаго Валянцін Акудовіч, віншуючы лаўрэата, пажартаваў: а на што вы, Віктар, паставіце мне аўтограф?

У намінацыі «Паэзія» найлепшай прызналі кнігу Антона Францішка Брыля «Не ўпаў жолуд». Лаўрэат жыве ў Цюрыху, ён прафесійны камп'ютаршчык, і прыехаць на цырымонію ўганаравання не змог. Але прыслаў відэазварот, у якім чытаў свае новыя вершы.

Усяго ў спісе намінантаў на прэмію было дзевяць пазіцыяў. І ўсе, хто не стаў лаўрэатам, атрымалі заахвочвальную прэмію.

Прэмію «Дэбют» летась заснавалі Беларускі ПЭН-Цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Яна ўручаецца за найлепшую дэбютную кнігу года. Фундатарам прэміі выступіў расійскі бізнесовец з беларускімі каранямі Павел Бераговіч.

**prajdzisvet.org**




**«Асоба і час». Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 4. Уклад. Аляксандр Фядута. – Мінск: Лімарыус, 2011. – 410 с.**

У чацвёрты выпуск альманаха «Асоба і час» увайшлі матэрыялы, прысвечаныя выдатным дзеячам гісторыі і культуры, чые лёсы звязаныя з беларускай зямлёй. Сярод іх Аляксандра Нарбут, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Плятэр, Вацлаў Ластоўскі, Яўген Барычэўскі, Зоська Верас, Ларыса Геніюш, Васіль Быкаў. Пра свае сустрэчы і ўражанні распавядуць чытачам нашыя сучаснікі – удзельнік змагання пад Монтэ-Касіна Мікалай Махнач, журналісты Валянціна Трыгубовіч і Андрэй Расінскі, вядомы філолаг Аляксей Каўка.




**Кавалёў Сяргей. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI – пачатку XVII ст.: феномен культурнага памежжа. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 344 с.**

У новай манаграфіі вядомага беларускага даследчыка разглядаюцца такія жанры шматмоўнага пісьменства Вялікага Княства Літоўскага XVI – пачатку XVII ст. як эпіграматычная і эпічная паэзія, эпісталаграфія, рыцарскі раман. мемуары, школьная драма. У «Дадатку» змешчана некалькі інтэрв'ю, рэцэнзій, артыкулаў, якія дапаўняюць асноўную тэму кнігі.




**Статкевіч-Чабаганаў Анатоль. Я – сын Ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак». – Мінск: Роднае слова, 2011. – 576 с.: іл. – (Летапіс беларускай шляхты).**

Выданне серыі «Летапіс беларускай шляхты» (знак серыі – «Страла выратавання») прысвечаны гісторыі беларускіх родаў ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён. Кнігі змяшчаюць кароткае апісанне і радаводныя роспісы, а таксама цікавыя факты і займальныя сюжэты з жыцця прадстаўнікоў беларускай шляхты, копіі гістарычных дакументаў і фотаздымкаў. У радаводных роспісах першы лік абазначае парадкавы нумар прадстаўніка роду, другі – ад якога продка ён паходзіць. Такая форма дае магчымасць лёгка ўбачыць і прасачыць роднасныя сувязі і ступень роднасці. Чырвоным колерам вылучаны імёны прамых продкаў і нашчадкаў аўтара. Першая кніга «Я – сын Ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак» змяшчае апісанне і радаводныя роспісы прамых продкаў і родзічаў аўтара. У наступных выданнях будуць даследаваны роды: Рудзінскія, Тычыны, Забэлы, Татуры, Ждановічы-Гурыновічы, Сыцько, Кернажыцкія, Маствіловічы, Сеўрукі, Некрашэвічы, Ліпскія, Кавецкія, Глінскія, Глінскія-Ліхадзіеўскія (Ліхадзіеўскія), Астрэйкі, Гетальты (Мішкавічы, Каленікавічы), Рэуты, Макавецкія, Ушынскія, Корзуны, Галінскія, Карыбуты-Дашкевічы, Пількевічы, Смольскія, Забродскія, Крукоўскія, Касынскія, Врочынскія, Бучынскія, Тарасевічы, Казановічы, Астроўскія, Скарыны і інш.

Кніга выдаецца на рускай і беларускай мовах і будзе цікавая не толькі вучоным-гісторыкам, архівістам, архіварыусам, але і шырокаму колу чытачоў.




**Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё уніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839 гг. – Мінск: Медысонт, 2011 – 198 с: іл.**

На падставе шырокага кола крыніц з архівасховішчаў Мінска, Гродна і Вільні пададзеная рэканструкцыя штодзённага жыцця ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг. Праца з'яўляецца першым у айчыннай гістарыяграфіі спецыяльным даследаваннем, напісаным у рэчышчы канцэпцыі гісторыі штодзённасці. Кніга адрасаваная гісторыкам, архівістам, краязнаўцам і ўсім, хто цікавіцца пытаннямі рэлігіязнаўства і гісторыі Беларусі.




**Кабржыцкая Таццяна. Дзве Радзімы – Украіна і Беларусь – пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур. Прадм. М. Мушынскага, А. Лойкі; паслясл. М. Хмяльніцкага. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 448 с.**

У кнізе даследуюцца важкія старонкі беларуска-ўкраінскага летапісу дружбы, асвятляюцца этапы нацыянальнага самавызначэння беларусаў і ўкраінцаў, ідэйна-эстэтычныя пошукі нацыянальных літаратур. Навуковая аналітычнасць, аўтарскія адкрыцці абапіраюцца на паяднанне традыцыйных і новых даследчыцкіх канцэпцый. Закранаюцца ў выданні праблемы тэорыі мастацкага перакладу, прадстаўлены напрацоўкі аўтара як перакладчыка з беларускай мовы на ўкраінскую. Кніга разлічана на літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, культуролагаў – навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў, вучняў старэйшых класаў – усіх, каго цікавіць лёс славянскіх цывілізацый, хто неабыякавы да іх культур, літаратур, мастацтваў.




**Чарняўскі Міхась. Каменны век Беларусі: ілюстраваны канспект лекцый. – Мінск: Тэхналогія, 2011. – 135 с., [36] арк. іл.**

Кніга з'яўляецца пашыраным канспектам лекцый па спецкурсе «Каменны век Беларусі», чытаных аўтарам у 2007–2010 гг. студэнтам гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія спецыялізуюцца ў галіне археалогіі. З увагі на тое, што археалогія – гэта навука, якая грунтуецца на рэчавым матэрыяле, здабытым раскопкамі, выданне забяспечана ілюстрацыямі. Навуковы складнік дапаможніка ў асноўным апрабаваны ў ранейшых публікацыях розных даследчыкаў, у тым ліку аўтара. Археалагічная навука няспынна развіваецца. Таму не будзе дзіўным, калі некаторыя факты і палажэнні гэтага выдання ўжо ў найбліжэйшым часам будуць дапоўненыя, удакладненыя або нават перагледжаныя.




**Званы старое казкі: вершы да вакальных цыклаў кампазітараў XIX стагоддзя. Уклад. Віктар Скорабагатаў; пер. з ням. В. Сёмухі. – Мінск: Тэхналогія, 2011. – 158 с.**

Зборнік змяшчае вершы да дванаццаці вакальных цыклаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай музычнай культуры. Іх аўтары – Антон Радзівіл, Людвіг ван Бетховэн, Франц Шуберт, Роберт Шуман, Рыхард Вагнер, Ёганес Брамс і Густаў Малер. Перакладзеныя на беларускую мову, гэтыя тэксты значна пашыраць рэпертуар выканаўцаў-спевакоў і паслужаць папулярызацыі музычных шэдэўраў эпохі рамантызму.




**Харэўскі Сяргей. Сто твораў XX стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу. Аўт.-укл. С. В. Харэўскі. – Вільня: ЕГУ, 2011. – 432 с., іл.**

Кніга складаецца з нарысаў і эсэ, што былі напісаны аўтарам у розныя гады і часткова друкаваліся ў розных выданнях. Аўтар прапануе сваю інтэрпрэтацыю твораў мастацтва, храналогія стварэння якіх ахоплівае ўвесь найноўшы час – ад канца XIX ст. да нашых дзён. Прадстаўлены імёны шырока вядомых творцаў, а таксама тыя, што ўпершыню ўведзены ў беларускі культурны кантэкст. Прызначаецца ўсім, хто вывучае мастацтва альбо творыць сам.




**Роўда Уладзімір. Палітычная сістэма Рэспублікі Беларусь: вучэб. дапам. – Вільня: ЕГУ, 2011. – 354 с.**

У кнізе разглядаецца эвалюцыя палітычных інстытутаў нашай краіны ад моманту дасягнення незалежнасці; утрымліваецца кампаратыўны аналіз палітычных працэсаў у Беларусі, якія параўноўваюцца з тымі, што адбываліся ў іншых постсавецкіх краінах; падрабязна разглядаюцца такія пытанні як атачэнне сістэмы, эвалюцыя палітычнага рэжыму, інстытуцыйная структура, асаблівасці палітычнай культуры і сацыялізацыі, асаблівасці дзейнасці груп інтарэсаў, спецыфіка агрэгацыі інтарэсаў, якая знаходзіць сваё адлюстраванне ў выбарах, дзейнасці партый і партыйнай сістэме.




**Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 10. Уклад. А. Каўка. – Москва: «ПКЦ» «Альтекс», 2011. – 344 с.: іл.**

Чытачу прапануюцца творы беларускай літаратурнай класікі. Прысвячэнні М. Багдановічу, Ул. Караткевічу, малавядомыя старонкі спадчыны М. Лабойкі, І. Грыгаровіча, І. Насовіча, П. Шпілеўскага, В. Ластоўскага, Я. Хлябцэвіча, Б. Тарашкевіча, Ул. Дубоўкі, М. Улашчыка; скарыназнаўчыя матэрыялы, архіўныя сведчанні пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, пра эміграцыю – БНР 1920-х. Доўжыцца тэма прысутнасці Беларусі, беларуса ў расійскай, маскоўскай прасторы, уключна з таемным лёсам Крыжа Лазра Богшы і Ефрасінні Полацкай.




**Правілы дарожнага руху Рэспублікі Беларусь. – Мінск: Уладзімір Сіўчыкаў, 2012. – 96 с., іл. 8 л. укл.**

Гэта першае выданне Правілаў дарожнага руху Рэспублікі Беларусь на беларускай мове, якое дапаможа вывучаць правілы дарожнага руху і здаваць на дзяржаўнай беларускай мове экзамены для атрымання правоў кіроўцы.




**Боярина Е. Л., Сивчиков В. Н. Русско-белорусский, белорусско-русский словарь фразеологизмов / Авт.-сост. Е. Л. Боярина, В. Н. Сивчиков. – Минск: Попурри, 2012. – 352 с.**

Слоўнік утрымлівае больш за 2000 рускіх ідыём, фразеалагізмаў, іншых устойлівых словазлучэнняў і 2000 іх беларускіх эквівалентаў, якія суправаджаюцца прыкладамі выкарыстання ў гутарковай і пісьмовай мове, а пры неабходнасці і тлумачэннямі. Выданне адрасуецца шырокаму колу чытачоў і карыстальнікам, якія жадаюць паглыбіць веды рускай і беларускай моваў.




**Кароткая граматыка нямецкай мовы. Л. П. Баршчэўскі, Я. А. Бяласін; – Мінск: Радыёла-плюс, ІП Сіўчыкаў Ул. М., 2012. – 120 с.: фат. – (Серыя «Беларускія ЕўраГраматыкі»).**

Нямецкая мова як індаеўрапейская – «сваячка» беларускай і іншых славянскіх моваў. Але пасля гіпатэтычнага «моўнага разводу» народаў да шчыльных моўных кантактаў з немцамі справа дайшла толькі ў апошнія тысячу гадоў. Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца нямецкай моваю, гісторыяй і культурай.




**Беларуска-літоўскі размоўнік. Baltarusių-lietuvių pasikalbėjimų knygelė. Уклад. Алесь Мікус; 2-е выд., дап. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 160 с.**

Другое выданне беларуска-літоўскага размоўніка дапоўненае двума новымі раздзеламі «Мабільная сувязь» і «У інтэрнэт-кавярні». У сувязі з тым, што побач з кірылічнымі транскрыпцыямі літоўскіх словаў пазначаныя таксама лацінкавыя транскрыпцыі беларускіх словаў, гэтае выданне будзе карыснае як беларусам, што выязджаюць у Літву, так і літоўцам, што цікавяцца Беларуссю і яе мовай.

# Эпісталярная спадчына...




**Юрэвіч Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 660 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 20).**

У кнізе беларускага эміграцыйнага даследчыка Лявона Юрэвіча «Шматгалосы эпісталярыум» сабраныя матэрыялы, прысвечаныя эпісталярнай спадчыне паваеннай эміграцыі. Лісты беларусаў з розных краінаў дазваляюць прадставіць не толькі адметнасці інтэлектуальнага жыцця беларускай інтэлігенцыі на Захадзе, але і паказаць штодзённасць шараговых эмігрантаў.

У раздзеле «Эпісталярыум як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта і біяграфіі ягонага часу» ўтрымліваюцца лісты «класіка эпісталярнага жанру» Юркі Віцьбіча, які праз свае лісты намагаўся сфармаваць агульную грамадскую думку, ствараючы вобразы герояў сваіх лістоў.

«Выбраныя лісты Міхася Міцкевіча да Міхася Тулейкі» асвятляюць яго грамадскую дзейнасць. Міхась Міцкевіч (брат Якуба Коласа) быў сябрам Галоўнай Управы Беларуска-амерыканскага задзіночання, пасля царкоўнага закалоту стаў апекуном Сабора Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, быў сябрам рэдкалегіі, а ў 1962 г. – рэдактар газеты «Беларус», пасля смерці ул. Васіля – у 1970–1981 выдаваў часопіс БАПЦ «Голас царквы», зрабіў поўны пераклад Новага Запавету на беларускую мову. Яго лісты – важная крыніца звестак па гісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі і чакае свайго даследчыка.

Кніга змяшчае і вялікую колькасць лістоў, што раней не публікаваліся, а таму апынуліся па-за ўвагай гісторыкаў і літаратуразнаўцаў. Сярод іх ліставанне Кастуся Акулы пад час напісання і водгукі чытачоў пасля публікацыі яго рамана «Змагарныя дарогі» і трылогіі «Гараватка». Гэтыя лісты «не толькі каментуюць «Змагарныя дарогі» і знаёмяць з ацэнкамі чытачоў: яны каментуюць саму гісторыю Беларусі ваеннага часу – смерць генерала Езавітава і ксяндза Гадлеўскага (да прыкладу) ды апавядаюць пра ўласныя лёсы. Усе разам яны ствараюць новы самастойны твор, з уласным сюжэтам, інтрыгаю, сенсацыяй і побытавасцю. Пакідаючы для чытача не адзін, а некалькі варыянтаў прачытання і ацэнкі», – піша Лявон Юрэвіч.

Цікавым для чытачоў будзе і раздзел кнігі «Трэба жыць, як набяжыць»: праўдзівая біяграфія амерыканскіх гадоў Наталлі Арсенневай», дзе змешчаны выбраныя лісты Наталлі Арсенневай сваёй сяброўцы Яніне Каханоўскай. «Лісты дасланыя з Рочэстэра, выразна асабістыя, побытавыя; напісаныя да блізкага сябра, яны не маюць ніякіх табуяваных тэмаў: смерць родных, хваробы, сямейныя складанасці, фінансавыя. Настрой – усё знайшло месца ў гэтым ліставанні і ўсё вельмі важна для разумення Наталлі Арсенневай як чалавека, для разумення ейнага працяглага – 30-ці гадовага – жыцця ў невялічкім правінцыйным гарадку», – адзначае Лявон Юрэвіч.

Сярод іншых герояў зборніка – Уладзімір Клішэвіч, Янка Чарапук-Змагар, Сцяпан Шнэк, Уладыка Васіль (Тамашчык) і шмат іншых вядомых асобаў беларускага замежжа.

Аўтар разглядае эміграцыйны эпісталярый як крыніцу звестак па гісторыі, літаратуры, штодзённасці. Варта адзначыць, што грунтоўных працаў, прысвечаных гэтай праблематыцы, да гэтага часу не было.

«Шматгалосы эпісталярыум» – энцыклапедыя эміграцкага жыцця, будзе карысная не толькі даследчыкам, але і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і біяграфіямі выбітных беларусаў, што і на чужыне працавалі на карысць Бацькаўшчыны.

**А.С.**

# «...І знікне будучыня, калі не будзе гісторыі»

*(Пачатак на стар. 1)*

зусім ссохлыя «трэцьшар'і» гісторыі ці будучыні. Узгадайма «непрапарцыянальны» мозг правадыра Леніна – і што ён з ім нарабіў на адной шостай зямлі! У яго, на маю думку, перасохлай было «трэцьшар'е» гісторыі. У Гітлера ж на чэрап ціснула перабольшанае «трэцьшар'е» будучыні. Ну а ў многіх цяперашніх правіцеляў непамерна разрасліся «трэцьшар'і» сучаснасці. Як, зрэшты, і ў героя майго рамана Івана Жахлівага…

**– А што найперш здзівіла Вас у працэсе напісання рамана, падчас вывучэння, як бачна, аграмаднай колькасці гістарычных матэрыялаў? І што, магчыма, засталося па-за тэкстам?**

– Здзівіла якраз тая непадзельная трыяда, аб якой я і кажу. Выснова, вызначаная ў эпіграфе да «Сім побѣдиши», не новая, але яна сама выпрасілася з усяго майго тэксту і падтэксту: «Усё знікае – нічога не змяняецца». Ні радасці, ні грахі, ні нават прозвішчы герояў не змяняюцца – у паўтысячагадовым, як відно з рамана, абсягу! І знікне будучыня, калі не будзе гісторыі. І ўсё тое адбывалася, адбываецца і адбывацьмецца якраз у сучаснасці.

Ну а па-за тэкстам… Напэўна, усё тое ж, толькі больш дэталізаванае. Напрыклад: Іван Жахлівы забіў Расію. Не апрычнінай нават, а тым, што некалі ўзяў Казань… Не было б яе – там не нарадзіліся, не вучыліся і не былі б (Сімбірск) ні Ульянавы, ні Керанскія…

Гісторыя ідзе перад будучыняй, але, на жаль, мала чаму вучыць. Таму чалавецтва, як і кожная нацыя ў прыватнасці, павінна, каб захавацца, паверыць у сваё не горшае за будучыню мінулае: паверыць у сваю мову, свае легенды. А доўг і праца пісьменніка, як дакладна сказаў паважаны мной Уільям Фолкнэр, заключаецца ў рэгістрацыі гісторыі, каб прапанаваць чалавеку веру ў будучае як мерку пройдзенага. Гэтым толькі самазахаваемся. Толькі гэтым пераможам…

**– На нядаўнім чарговым з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў пасля дзевяці гадоў старшынства Вы сышлі з гэтай пасады. Цяпер у Вас з'явілася больш часу для творчасці. Цікава, над чым вы цяпер працуеце? Ці думаеце вяртацца да вершаў, з якіх Вы некалі пачыналі?**

– Звычайна на падобнае адказваюць: «Хочаш пачуць, як смяецца Бог – раскажы пра свае планы». Я ж гэтую фразу не прымаю. Нібыта Бог не ведае пра ўсё, табой задуманае. Зрэшты, не так і кепска, калі Бог смяецца… Прыкрыюся лепш іншай вядомай думкай: «Літаратару не варта занадта гаварыць. Калі ён многа гаворыць, дык роўна настолькі менш напіша»…

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Павал Касцюкевіч. Зборная РБ па негалоўных відах спорту: апавяданні. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 138 с.**

Чытаючы апавяданні П. Касцюкевіча, часам дзіву даешся, якім чынам, з якой нагоды і па якім неверагодным збегу акалічнасцяў словы ў сказах апынаюцца побач. Разумееш – гэта новая афарыстычнасць. Прызнаеш – так, гэта Літаратура. Чакаеш – калі ж пачуецца шоргат шыферу…




**Франц Сіўко. Выспы. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 280 с.**

Новую кнігу вядомага віцебскага празаіка склалі творы ўсіх жанраў, у якіх ён плённа працуе – аповесці, апавяданняў, эсэ, запісаў. Акрамя таго, адзін тэкст мае нечаканы, як для прыхільніка кароткай прозы, загаловак: «Просты-просты раман». Але гэта фармальны погляд. Калі ж казаць па сутнасці, то не адкрыем Амерыкі, заўважыўшы, што ў Ф. Сіўко дужа адметны, арыгінальны стыль. Можна шукаць нейкія эпітэты ды дэфініцыі, але, падаецца, найлепшай яго характарыстыкай будзе слова «інтэлігентнасць». На тле існай літаратурнай сітуацыі, да жалю, – «знікаючы від»…




**Ганна Аўчыннікава. Ад зачыненай брамы. – Гродна, 2011 (Гарадзенская бібліятэка). – 55 с.**

Ганна Аўчыннікава – пераможца «Залатога Апострафа» за найлепшы дэбют у «Дзеяслове» ў 2005 годзе. І вось нарэшце выйшла сціплая па аб'ёме кніга паэткі (але калі ж гэта вартасць паэтычнай кнігі вызначалася яе таўшчынёй?). У прадмове да кнігі Анатоль Брусэвіч прылічае аўтарку да «неадэкадэнтаў», тых, для каго мастацтва – «не гульня, не бізнес, не вайна, але рэлігія, вера ў святую моц Слова». Да характарыстыкі паэткі спадарыні Ганны напрошваецца багдановіцкае вызначэнне «чыстае красы». Яе вершы пераважна пазітыўна-жыццесцвярджальныя, часам – эстэцкія, у станоўчым сэнсе гэтага слова. Бытавыя турботы й канкрэтныя праявы часу застаюцца для іх чымсьці другасным. Перадусім – пачуццё, настрой, фіксацыя зрухаў душы… Між тым, сустракаюцца й іранічныя радкі, прысвечаныя рэаліям сённяшнім:

…Мы мірныя, братка, людзі,
Мы любім святло вясны,
А будзе тыран, не будзе –
Абы не было вайны…

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65

**«Кнігарня «Наша Ніва»,**
e-mail: alaksandradynko@gmail.com,
тэл.: +375 29 872 26 35



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 13
сакавік, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 13, 20.3.2012.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, 220030, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com